ЦАНА 15 КАП.

*1-шы год выдання*

# БЮЛЕЦЕНЬ

## НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТА АСВЕТЫ БССР

**1 КАСТРЫЧНІКА 1934 года**

ЗМЕСТ



ВЫДАННЕ ДВБ — МЕНСК, 1934

**№ 1**

## АД РЭДАКЦЫІ

Гэтым нумарам Народны камісарыят асветы прыступіў да сістэматычнага выдання бюлецення, у якім будуць змяшчацца пастановы дырэктыўных органаў, якія датычацца НКА і яго сістэмы, загады НКА і яго аддзелаў, кароткія інфармацыі і метадычныя паказанні.

Бюлецень выходзіць два разы ў месяц, кожнага 1-га і 15-га.

Просьба да ўсіх асветнікаў дасылаць свае заўвагі па зместу і своечасовасці паступлення бюлецення, па адрасу: Менск, Дом Урада, Народнаму камісарыяту асветы, рэдакцыі бюлецення.

---

Школа ФЗВ друк. імя Сталіна. Зак. № 587. Галоўлітбел № 323. Тыраж 8000 экз.

# Пастановы СНК Саюза ССР і ЦК ВКП(б)

## 1. Аб структуры пачатковай і сярэдняй школы ў СССР

1. У мэтах забеспячэння чоткай арганізацыйнай структуры і парадку ў школе ўстанавіць агульныя для ўсяго СССР тыпы агульна-асветнай школы: пачатковая школа, няпоўная сярэдняя школа і сярэдняя школа.

2. У пачатковай школе мець 4 класы з 1 па 4 уключна, у няпоўнай сярэдняй— 7 класаў з 1 па 7 уключна, у сярэдняй— 10 класаў з 1 па 10 уключна.

3. Існуючыя ў школах групы перайменаваць у класы, устанавіўшы парадкавы лік ад 1 класа да 10.

4. Існуючую ў радзе школ для дзяцей 7-гадовага ўзросту так званую нулявую групу перайменаваць у падрыхтоўчы клас.

5. Прапанаваць Дзяржплану СССР прадставіць у СНК СССР план паскоранага развіцця сеткі сярэдніх школ.

6. Устанавіць, што скончыўшыя няпоўную сярэднюю школу маюць права пераважнага паступлення ў тэхнікумы, а скончыўшыя сярэднюю школу маюць права пераважнага паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы.

7. Загадчыкамі пачатковых школ назначаць у далейшым толькі тых педагогаў, якія паспяхова скончылі педагагічны тэхнікум, маюць 3-гадовы стаж педагагічнай работы і атрымалі належную атэстацыю з боку адпаведных мясцовых органаў народнай асветы.

8. Загадчыкаў пачатковых школ назначаць Наркомасветы саюзных і аўтаномных рэспублік па прадстаўленню мясцовых органаў народнай асветы.

9. Загадчыкаў няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ іменаваць дырэктарамі.

10. Дырэктарамі няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ назначаць у далейшым толькі тых педагогаў, якія паспяхова скончылі вышэйшую педагагічную навучальную ўстанову і маюць 3-гадовы стаж педагагічнай работы.

11. Дырэктароў няпоўных сярэдніх і сярэдніх школ назначаць Наркомасветы саюзных і аўтаномных рэспублік.

12. Забараніць асоб, якія маюць спецыяльную педагагічную асвету, назначаць на іншую, не па спецыяльнасці, работу.

## 2. Аб выкладанні грамадзянскай гісторыі ў школах СССР

Совет народных камісараў Саюза ССР і Цэнтральны камітэт ВКП(б) канстатуюць, што выкладанне гісторыі ў школах СССР пастаўлена нездавальняюча. Падручнікі і само выкладанне носяць адцягнены, схематычны характар. Замест выкладання *грамадзянскай гісторыі* ў жывой, цікавай форме, з выкладаннем важнейшых падзей і фактаў у іх храналагічнай паслядоўнасці, з характарыстыкай гістарычных дзеячоў, вучням падносяць абстрактныя азначэнні грамадска-эканамічных фармацый, падмяняючы такім чынам звязнае выкладанне грамадзянскай гісторыі адцягненымі соцыялагічнымі схемамі.

Рашаючай умовай грунтоўнага засваення вучнямі курса гісторыі з'яўляецца захаванне гісторыка-храналагічнай паслядоўнасці ў выкладанні гістарычных падзей з абавязковым замацаваннем у памяці вучняў важных гістарычных дзеячоў, храналагічных дат. Толькі такі курс гісторыі можа забяспечыць неабходную для вучняў даступнасць, нагляднасць і канкрэтнасць гістарычнага матэрыялу, на аснове чаго толькі і магчымы правільны разбор і правільнае абагульненне гістарычных падзей, якія падводзяць вучня к марксісцкаму разуменню гісторыі.

У адпаведнасці з гэтым Совет народных камісараў Саюза ССР і Цэнтральны камітэт ВКП(б) пастанаўляюць:

1. Падрыхтаваць к чэрвеню 1935 г. наступныя новыя падручнікі па гісторыі:
   а) гісторыю старажытнага свету;
   б) гісторыю сярэдніх вякоў;
   в) новую гісторыю;
   г) гісторыю СССР;

д) новую гісторыю залежных і каланіяльных краін.

2. Зацвердзіць наступны спіс членаў груп па складанню новых падручнікаў па гісторыі:

Гісторыя старажытнага свету: праф. Кавалёў С. І. (кіраўнік), акад. Нікольскі Н. М., Свапідзе А. С. і праф. Мінулін А. В.

Гісторыя сярэдніх вякоў: праф. Космінскі Е. А. (кіраўнік), праф. Гукоўскі А. І., Трахтэнберг О. В., Мальшэў А. І.

Новая гісторыя: акад. Лукін М. Н. (кіраўнік), праф. Фрыдлянд Г. С., праф. Далін В. М., праф. Зайдэль Г. С. і дацэнт Ефімаў А. В.

Гісторыя СССР: праф. Ваган Н. Н. (кіраўнік), праф. Грэкаў Б. Д., праф. Панкратава А. М., праф. Піантоўскі С. А.

Новая гісторыя залежных і каланіяльных краін: Радэк К. (кіраўнік), Габідулін Х. З., праф. Конрад Н. І., Мухарджы А. С., Годэс М. С., Кокін М. Д., Мадзяр Л. І., Міф П. А. і Ротштэйн Ф. А.

3. У мэтах падрыхтоўкі кваліфікаваных спецыялістаў па гісторыі аднавіць з 1 верасня 1934 г. гістарычныя факультэты ў складзе Маскоўскага і Ленінградскага універсітэтаў з кантынгентам асенняга прыёму на кожны з факультэтаў па 150 чалавек, устанавіўшы тэрмін навучання 5 год.

### 3. Аб выкладанні геаграфіі ў пачатковай і сярэдняй школе СССР

Совет народных камісараў Саюза ССР і Цэнтральны камітэт ВКП(б) устанаўляюць, што выкладанне геаграфіі ў пачатковай і сярэдняй школе страдае істотнымі недахопамі, буйнейшым з якіх з'яўляюцца адцягненасць і сухасць выкладання, недастатковасць фізіка-геаграфічнага матэрыялу, слабая арыентыроўка па карце, перагрузка выкладання і падручнікаў па геаграфіі статыстыка-эканамічным матэрыялам і агульнымі схемамі, з прычыны чаго вучні выходзяць з школы, не маючы часта элементарных геаграфічных ведаў.

Для ўстранення ўказаных недахопаў СНК СССР і ЦК ВКП(б) лічаць неабходным перагледзець праграмы і падручнікі па геаграфіі для пачатковай і сярэдняй школы, прапанаваўшы Наркомасветы саюзных рэспублік кіравацца наступнымі палажэннямі:

1. У выкладанні геаграфіі ў пачатковай школе (3 і 4 класы) забяспечыць замацаванне ў памяці вучняў асноўных геаграфічных назваў (краін, рэк, марэй, гор, гарадоў і т. п.) і грунтоўнае веданне геаграфічнай карты ў межах установленых праграмай, дабіўшыся большай наглядпасці, даступнасці, папулярнасці і цікавасці выкладання.

2. У выкладанне геаграфіі ў сярэдняй школе ўнесці наступныя змены:

а) у праграме 5 класа абмежавацца фізічнай геаграфіяй і захаваць устаноўлены аб'ём праграмы, але спрасціць змест, прыстасаваўшы яго да ўзросту вучняў 5 класа;

б) у праграме 6 класа сканцэнтравацца на фізіка-геаграфічным аглядзе частак свету (Еўропа, Азія, Амерыка, Афрыка, Аўстралія) з дадаткам асноўных вестак аб важнейшых дзяржавах па кожнай частцы свету: палітычным ладзе, народнай гаспадарцы і т. д., скараціўшы і спрасціўшы вучэбны матэрыял прыстасоўна да ўзросту вучняў гэтага класа;

в) у праграме 7 класа аставіць агульны фізіка-геаграфічны агляд СССР, значна павялічыўшы яго аб'ём, а таксама агляд СССР па рэспубліках, краях і абласцях, з тым, каб рашуча спрасціць і разгрузіць вучэбны матэрыял праграмы ад эканамічных і статыстычных падрабязнасцей і адначасова пашырыць у гэтых аглядах геаграфічную характарыстыку кожнай з рэспублік, краёў і абласцей (апісанне рэк, азёр, марэй, клімату, флоры і фауны, характарыстыкі насельніцтва, буйнейшых гарадоў, чыгуначных і шасейных дарог і т. д.);

г) па праграме 8 класа эканамічную геаграфію СССР выкладаць такім чынам, каб, прадпаслаўшы ў пачатку агляд размяшчэння прадукцыйных сіл СССР і становішча народнай гаспадаркі, даць затым падрабязную эканоміка-геаграфічную характарыстыку кожнага раёна;

д) у праграме 8 класа ўвесці эканамічную геаграфію капіталістычных краін.

3. Падрыхтаваць новыя падручнікі па геаграфіі да чэрвеня 1935 г. для чаго зацвердзіць наступных аўтараў;

а) Тэрэхаў П. Г. і Эрдэлі В. Г., падручнік па элементарнай геаграфіі для 3 і 4 класаў пачатковай школы (у 2-х частках).

б) Праф. Баркоў А. С. і праф. Палавінкін А. А., падручнік па фізічнай геаграфіі для 5 класа.

в) Варжанскі С. Л., падручнік па геаграфіі частак свету і важнейшых краін (без СССР для 6 класа);

г) праф. Баранскі Н. Н., падручнік па фізічнай геаграфіі СССР для 7 класа;

д) праф. Баранскі Н. Н., падручнік па эканамічнай геаграфіі СССР для 8 класа;

е) Вітвер І. А., падручнік па эканамічнай геаграфіі капіталістычных краін для 9 класа.

4. Прапанаваць Наркомасветы РСФСР і Дзяржвыдавецтву выдаць у дапамогу настаўнікам геаграфіі хрэстаматыю па геаграфіі, методыку выкладання геаграфіі, бібліяграфічны ўказальнік кніг і геаграфічны журнал для настаўнікаў.

5. Прапанаваць Наркомасветы Саюзных рэспублік, пачынаючы з 1934 г., выдаць невялікую серыю кніг для занятнага чытання вучняў па геаграфіі (біяграфіі вялікіх вандроўнікаў, расказы аб жыцці асобных краін і народаў, папулярныя апісанні важнейшых вандраванняў і т. п.).

6. Прапанаваць Дзяржвыдавецтву і Картатрэсту забяспечыць выданне па заяўках Наркомасветы геаграфічных карт, атласаў, карцін, табліц і інш. вучэбных дапаможнікаў па геаграфіі.

Сакратар ЦК ВКП(б) *І. Сталін.*

Старшыня СНК СССР *В. Молатаў.*

---

## Пастанова Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Совета народных камісараў Беларускай ССР

### Аб бібліятэчнай справе БССР

Надаючы вялікае значэнне бібліятэчнай справе, у адпаведнасці з пастановай ЦВК СССР ад 27/III—34 г. „Аб бібліятэчнай справе", ЦВК і СНК БССР пастанаўляюць:

1. Прыняць наступныя паказчыкі па разгортванню бібліятэчнай справы БССР у другой пяцігодцы: павелічэнне кніжнага фонда ў масавых бібліятэках не менш як у тры разы, прычым на вёсцы не менш як у пяць раз, выходзячы з наступнага:

а) забеспячэнне кожнага раёна МТС і соўгаса базавай стацыянарнай бібліятэкай, арганізацыя бібліятэк пры кожнай хаце-чытальні, стварэнне стацыянарных бібліятэк пры кожным прадпрыемстве з колькасцю рабочых звыш 500 чал., разгортванне міжсаюзных бібліятэк пры клубах і раённых гарадскіх бібліятэк;

б) адчыненне дзіцячых аддзелаў пры ўсіх раённых і гарадскіх бібліятэках і арганізацыі самастойных узорных дзіцячых бібліятэк у гарадах: Менску, Гомелі, Віцебску. Стварэнне бібліятэк пры кожнай школе, прычым пры ўзорных няпоўных і поўных сярэдніх школах як сельскіх, так і гарадскіх з асобным штатным работнікам;

в) павелічэнне кніжнага фонда Дзяржаўнай бібліятэкі, Бібліяграфічнага інстытута імя Леніна і яе аддзяленняў у Віцебску, Гомелі, Магілеве і пры Доме ўрада з 1 100 тыс. да 2 200 тыс. томаў.

2. Зацвердзіць далучаемы да гэтага спіс МТС і соўгасаў, у якіх павінны быць адчынены яшчэ ў 1934 г. стацыянарныя бібліятэкі ў колькасці 30 бібліятэк у МТС і 15 у соўгасах. Наркамфіну адпусціць на гэтую мэту дадаткова 90 тыс. руб.

3. Прапанаваць Наркомасветы і Наркамфіну ўключыць у штаты гарадскіх і раённых аддзелаў Народнай асветы з 1/I 1935 г. бібліятэчных інспектароў.

4. Для забеспячэння кадрамі Наркомасветы прадугледзець у плане 1934 г. адчыненне ў Менску Бібліятэчнага тэхнікума з наборам у 120 чал. Абавязаць Наркомасветы БССР падрыхтаваць для бібліятэчнай сістэмы БССР да канца другой пяцігодкі не менш як 120 работнікаў з вышэйшай спецыяльнай асветай.

5. Даручыць Дзяржплану, прадугледзець ў плане будаўніцтва 1935 г. пабудову асноўнага кнігасхова Дзяржаўнай бібліятэкі, забяспечыўшы шырокае разгортванне будаўніцтва дзіцячых, гарадскіх і раённых бібліятэк на працягу 1935—1937 гг. Прадугледзець у 1935 г. рамонт усіх бібліятэчных памяшканняў БССР.

6. Наркомасветы сумесна з палітсектарам Наркамзема забяспечыць у 1934—1935 г. усе калгасы стацыянарнымі або перасовачнымі бібліятэкамі. Абавязаць праўленні калгасаў вылучыць адказных за ўтрыманне і работу гэтых бібліятэк работнікаў.

7. Абавязаць Наркомасветы і Выдавецкія кнігагандлёвыя арганізацыі ўстанавіць з 15/VII гэтага года цвёрды процант тыражоў, які павінен браніравацца для забеспячэння бібліятэк.

8. Дзяржвыдавецтву БССР забяспечыць выпуск часткі тыражоў літаратуры, у бібліятэчных пераплётах, узгадняючы гэтыя кантынгенты з НКА.

9. Рэарганізаваць існуючы ў Менску Бібліятэчны калектар у Цэнтральны аб'яднаны калектар НКА і ЦСПСБ, перадаўшы яго ў сістэму НКА. НКА арганізаваць аддзяленні Бібліятэчнага калектара ў Гомелі і Віцебску. НКФ адпусціць НКА на арганізацыйныя выдаткі Бібліятэчнага калектара да 10000 руб.

10. Замацаваць за НКА для бібліятэчнага тэхнікума Цэнтральнага бібліятэчнага калектара і Цэнтральнага кніжнага фонда Дзяржаўнай бібліятэкі памяшканне друкарні імя Сталіна пасля пераходу апошняй у Дом Друку.

11. Дзяржаўнай бібліятэцы і Бібліяграфічнаму інстытуту імя Леніна звярнуць асаблівую увагу на практычную дапамогу масавым бібліятэкам, забяспечыўшы разам з выдавецтвамі БССР выданне сталых крытыка-бібліяграфічных бюлеценяў, рэкамендацыйных каталагаў, спісаў і г. д. Наладзіць, пачынаючы з 1934 г., выданне друкаваных каталажных картак на кніжную прадукцыю БССР. Даручыць Дзяржплану выдаць для гэтай мэты патрэбную колькасць паперы і картону.

12. Абавязаць НКА, Наркамлегпром і Бакт на працягу 1934 г. арганізаваць выраб і снабжэнне бібліятэк стандартнымі прыладамі бібліятэчнай тэхнікі і абсталяваннем. Саюзбумэбыту вылучыць адпаведныя фонды картону і паперы для паказанай вытворчасці, а таксама для пераплёту і рамонту бібліятэчных кніг.

13. Забараніць усякае скарыстанне сродкаў, вызначаных на бібліятэчную справу, на другія патрэбы. ЦСПСБ устанавіць з 15 ліпеня цвёрдыя каштарысы для бібліятэк сваёй сістэмы і забяспечыць кантроль за выдаткаваннем гэтых сродкаў.

14. Усім будаўнічым арганізацыям пры будаўніцтве пасёлкаў і жыллёвых камбінатаў прадугледжваць памяшканні для бібліятэк і чытальнь.

15. Прапанаваць НКА правесці на працягу 1934—1935 г. усебеларускі конкурс на лепшую масавую бібліятэку. Абавязаць Народны камісарыят фінансаў прадугледзець у 1935 г. выдаткаванне 20000 руб. на прэміраванне лепшых бібліятэчных работнікаў і бібліятэк па конкурсу.

16. Катэгарычна забараніць усім установам і арганізацыям скарыстанне памяшканняў бібліятэк для другіх мэт і перасяленне бібліятэк у горшае памяшканне. Парушыцеляў гэтай дырэктывы прыцягваць да суровай адказнасці.

17. Для каардыніравання работ бібліятэк розных ведамстваў і гарадскіх арганізацый арганізаваць пры НКА Совет па бібліятэчнай справе з прадстаўнікоў НКА, ЦСПСБ, палітсектара НКЗ, уп. Наркомсоўгасаў НКЦяжпрома, НКЛегпрома, ЦК ЛКСМБ, Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, Аддзялення ОГИЗ'а, Бакт'а Цэнтральнага праўлення Саюза працасветы, Саюза пісьменнікаў, ад Чырвонай арміі і кваліфікаваных бібліятэчных работнікаў.

18. Ускласці на ЦСПСБ поўную адказнасць за становішча і работу бібліятэк сістэмы ЦСПСБ, пакінуўшы за НКА кантроль над работай бібліятэк як профсаюзаў, так і іншых арганізацый.

19. Абавязаць НКА забяспечыць строгую справаздачнасць ва ўсёй бібліятэчнай справе.

Старшыня ЦВК БССР *Чарвякоў*.

Старшыня СНК БССР *Галадзед*.

Сакратар ЦВК БССР *Ляўкоў*.

22 ліпеня 1934 г.

Гор. Менск.

---

# Пастанова Совета народных камісараў БССР

## Аб павелічэнні заработнай платы бібліятэчным работнікам

Совет народных камісараў БССР пастанаўляе:

1. Павялічыць з 1 студзеня 1934 г. заработную плату бібліятэчным работнікам на 15 проц.

2. Прапанаваць Народнаму камісарыяту асветы разам з ЦП Саюза працаўнікоў асветы перагледзець існуючую дыферэнцыяваную заработную плату бібліятэчным работнікам у бок максімальнага павелічэння заработнай платы больш кваліфікаваным работнікам.

Нам. старшыні Совета народных камісараў БССР *А. Балцін*.

Нам. кіраўніка спраў Совета народных камісараў і Эканамічнага Совета БССР *А. Мацко*.

12 студзеня 1934 г.
№ 39
г. Менск.

# ПАСТАНОВА

## Цэнтральнага Совета профсаюзаў БССР ад 22/II 1934 г.

### Аб павелічэнні зарплаты бібліятэчным работнікам

На падставе пастановы СНК БССР ад 12/I 1934 г. №309. „Аб павелічэнні зарплаты бібліятэчным работнікам", ЦСПСБ пастанаўляе:

1. Пастанова НКП БССР ад 16/IV 1931 г. № 49 у частцы зарплаты бібліятэчным работнікам, схему ставак зарплаты НКП за 1932 г. № 4,п.2 схемы НКП, № 3 аб школьных бібліятэкарах і п. п. 8—9 пастановы ЦСПСБ ад 20/XII 1933гс. касаваць.

Старшыня ЦСПСБ *Кавальчук.*

Заг. аддз. зарплаты і вытворчасці ЦСПСБ *Адак.*

---

## Пастанова Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Совета народных камісараў БССР

### Аб устанаўленні перыядычных надбавак да асноўнай заработнай платы бібліятэчным работнікам

Цэнтральны выканаўчы камітэт і Совет народных камісараў БССР пастанаўляюць:

1. Пашырыць на заг. бібліятэк і бібліятэкараў гарадскіх, вясковых, спецыяльных, школьных бібліятэк, бібліятэк пры вышэйшых навучальных установах, тэхнікумах, рабфаках, навукова-даследчых інстытутах, грамадскіх і інш. бібліятэках пастанову ЦВК і СНК ад 17 лістапада 1929 года „Пра ўстанаўленне перыядычных надбавак да асноўнай заработнай платы некаторых катэгорый педагагічных працаўнікоў і заг. народных дамоў і хатчытальнь" (З. З. БССР, 1929 г. № 41 паст. 244), вызначыўшы пачатак тэрмінаў выплаты надбавак з 1 студзеня 1934 г.

2. Даручыць Народнаму камісарыяту асветы пасля ўзгаднення з Народным камісарыятам фінансаў на працягу двух дэкад выдаць інструкцыю аб парадку ажыццяўлення гэтай пастановы.

Старшыня Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР *Чарвякоў.*

Нам. старшыні Совета народных камісараў БССР *Балцін.*

Сакратар Цэнтральнага выканаўчага камітэта БССР *Ляўкоў.*

---

# ЗАГАД № 737

## па Народнаму камісарыяту асветы БССР

### Аб выкананні пастановы СНК і ЦК КП(б)Б

Ад 3|VII 1934 г., г. Менск.

Праверыўшы па наркамату ход выканання пастановы СНК і ЦК КП(б)Б пра рэалізацыю пастаноў СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб структуры пачатковай і сярэдняй школы ў СССР, аб выкладанні гісторыі і геаграфіі ў пачатковай і сярэдняй школе, загадваю:

1. Начальніку Школьнага ўпраўлення, пад яго асабістую адказнасць, не пазней 15|VIII гэтага года закончыць разгляд сеці школ па раёнах, прадстаўляючы мне на зацверджанне пратаколы разгляду па кожнаму раёну па пачатковай школе і для пастаноўкі ў СНК БССР на разгляд і зацверджанне матэрыялаў па няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школе.

2. Начальніку Школьнага ўпраўлення пры разглядзе сеці прадугледзець ужо ў гэтым годзе, згодна праекта пяцігадовага плана, рэарганізацыю не менш 200 пачат-

ковых школ з адным настаўнікам у пачатковую 4-класную школу не менш, чым з двума настаўнікамі.

3. Начальніку Школьнага ўпраўлення пры разглядзе сеці поўнасцю размясціць па раёнах, у першую чаргу ў гарадах і прамысловых цэнтрах, а таксама ў вядучых раёнах БССР запланіраваную на 1934—35 навучальны год сець школ, класаў, а таксама кантынгенты сярэдняй школы ў нацыянальным разрэзе, звярнуўшы асаблівую ўвагу на рост рускай сярэдняй школы. Перагледжаны праект размяшчэння сеці сярэдняй школы на 1934—35 навучальны год прадставіць мне на разгляд не пазней 20 жніўня гэтага года.

4. Нам. Школьнага ўпраўлення не пазней 15 жніўня гэтага года скончыць перагляд складу дырэктароў і загадчыкаў школ у мэтах вывучэння маючыхся кадраў, прадстаўляючы мне па кожнаму раёну для зацверджання кандыдатуры ўноў прызначаных дырэктароў і заг. школ.

Звярнуць асаблівую ўвагу на падбор кандыдатур дырэктароў і загадчыкаў тых узорных школ, якія не маюць да гэтага часу апошніх.

5. У сувязі з устаноўленым фактам, што заг. Бабруйскага Райана самаўласна зняў з работы дырэктара Багушэўскай школы, што супярэчыць рашэнню ЦК ВКП(б) аб структуры (звальненне і прызначэнне ўтвараецца Наркомам), катэгарычна папярэджваю ўсіх загадчыкаў Райана, што ў далейшым НКА будзе прыцягваць да суровай адказнасці за гэтыя ўчынкі.

6. Начальніку Школьнага ўпраўлення даць на працягу дэкады паказанні ўсім заг. АНА аб скліканні ў перыяд з 25|VII па 1|VIII гэтага года па кожнаму раёну нарады дырэктароў і загадчыкаў усіх школ для абгаварэння, распрацоўкі і ажыццяўлення пастаноў ЦК ВКП(б), СНК СССР, ЦК КП(б)Б і СНК БССР.

Прадставіць мне не пазней 20 ліпеня гэтага года спіс адказных работнікаў НКА для правядзення гэтых нарад у радзе раёнаў.

7. Прыступіць да выдання бюлецэня НКА, у якім змяшчаць пастановы дырэктыўных органаў, якія датычацца НКА і яго сістэмы, загады НКА і яго аддзелаў, кароткія інфармацыі, метадычныя паказанні. Устанавіць выданне бюлецэня два разы ў месяц з тыражом у 8 000 экз., які дасылаць кожнай школе за кошт Райана.

Прызначыць адказным дырэктарам бюлецэня т. **Багуслаўскага**, якому ў 5-дзённы тэрмін дабіцца, згодна рашэння ЦК і СНК, выдзялення фонда паперы, а таксама друкарні для забеспячэння выхаду першага нумара бюлецэня не пазней 20 ліпеня гэтага года.

8. Нач. Школьнага ўпраўлення прадставіць мне не пазней 25 ліпеня гэтага года праект перагледжанага навучальнага плана для пачатковай, няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школы на аснове даных паказанняў адносна павелічэння колькасці гадзін на выкладанне грамадзянскай гісторыі, геаграфіі, мовы і літаратуры.

К гэтаму часу нач. Школьнага ўпраўлення прадставіць праект выкладання мовы па класах у нацыянальных школах, на разгляд і ўнясення ў дырэктыўныя органы на зацверджанне.

9. Даручыць складанне падручніка па гісторыі БССР т. **Шчарбакову**, якога абавязаць прадставіць рукапіс падручніка не пазней красавіка месяца 1935 г.

10. Даручыць складанне падручніка па эканомгеаграфіі БССР тт. Лойко (адказны) і Маргелаву і абавязаць іх здаць рукапіс падручніка не пазней красавіка 1935 г.

11. Начальніку Школьнага ўпраўлення стварыць не пазней 1 жніўня сталыя камісіі з лепшых настаўнікаў з удзелам аўтароў па геаграфіі і гісторыі для распрацоўкі праграм па гісторыі БССР і эканомгеаграфіі БССР з тым, каб закончыць распрацоўку апошніх не пазней чэрвеня 1935 г.

Адначасова з гэтым нач. Школьнага ўпраўлення забяспечыць сіламі праграмна-метадычнай групы і памянёных вышэй камісій распрацоўку метадычных паказанняў па выкладанню гісторыі БССР і эканомгеаграфіі БССР у школах у 1934-35 нав. годзе з тым, каб апошнія былі даведзены да школ не пазней 15 жніўня.

12. Зацвердзіць прадстаўленыя спісы літаратурных твораў, а таксама твораў па гісторыі і геаграфіі для занятнага чытання вучняў і абавязаць ДВБ, у сувязі з скарачэннем выдання стабільных падручнікаў па асобных дысцыплінах і зняцця з выдавецкага плана раду падручнікаў, прыступіць да безадкладнага выдання іх з тым, каб да 1 верасня 1934 г. выдаць не менш 30 гэтых кніжак, а к 1 студзеня 1935 г. 70% патрэбнай дзіцячай літаратуры.

13. Для забеспячэння зробленых заказаў на наглядныя і вучэбныя дапаможнікі па гісторыі, геаграфіі і інш. дысцыплінах абавязаць кіраўніка групы забеспячэння т. **Хмыза** ў 3-дзённы тэрмін выехаць у папяровыя фабрыкі, адгружаючыя паперу НКА па фондах, для выдзялення неабходнай колькасці адпаведнай паперы з фондаў НКА на гэтую мэту.

Кіраўніку групы забеспячэння т. **Хмызу** пасля выдзялення паперы заключыць

дагавор з Картатрэстам і Вучпедгізам РСФСР і адгрузіць ім неабходную колькасць паперы, скончыўшы гэту работу не пазней 10 ліпеня.

14. Адобрыць ініцыятыву ДВБ па надрукаванню раду вучэбных дапаможнікаў (табліцы, арфаграфічныя прописі і г. д.); т. Браўковічу безадкладна прыступіць да выдання іх, згодна ўстаноўленых школьным упраўленнем тыражоў з тым, каб забяспечыць выхад іх з друку не пазней 15 жніўня гэтага года.

15. Адзначыць, што ў першыя дні работы курсаў для выкладчыкаў гісторыі і геаграфіі пры Менскім педінстытуце працякае нездавальняюча. Праверыць работу Менскіх курсаў для гісторыкаў і географаў і прыняць усе меры да ліквідацыі ўсіх недахопаў. Абавязваю нач. упраўлення падрыхтоўкі настаўнікаў накласці спагнанні на вінаватых у гэтым работнікаў Менскага педінстытута і інстытута завочнага навучання, аб чым далажыць мне праз тры дні.

Начальніку Упраўлення кадраў у 3-дзённы тэрмін камандыраваць адказных работнікаў Упраўлення для праверкі работы курсаў гісторыкаў і географаў і выкладчыкаў літаратуры і мовы пры іншых педінстытутах.

16. Начальніку Упраўлення падрыхтоўкі настаўнікаў прадставіць мне не пазней 20 ліпеня гэтага года праект арганізацыі 2-гадовага аддзялен. падрыхтоўкі выкладчыкаў гісторыі і геаграфіі для няпоўных сярэдніх школ на 200 асоб пры Менскім і Магілеўскім педінстытуце тэхкрыніцы набору, каштарыс на ўтрыманне гэтых аддзяленняў ад 1/I 1935 г.

17. Нач. Упраўлення падрыхтоўкі настаўнікаў, рэктару БДУ і дырэктарам педінстытутаў, цесна ўвязваючы работу з інстытутам Гісторыі партыі і Акадэміяй навук, распрацаваць праект і план арганізацыі з 1/VIII гэтага года сістэматычнай кансультацыі для выкладчыкаў гісторыі і геаграфіі, арганізацыі цыклу лекцый па гісторыі і геаграфіі сіламі высокакваліфікаваных прафесароў і план выдання серыі асобных лекцый прафесуры БДУ і педінстытутаў па гісторыі і геаграфіі, пачынаючы з 1/IX—34 г.

18. Рэктару БДУ распрацаваць план работы аспірантуры БДУ з выкладчыкамі гісторыі і геаграфіі ў парадку праходжання практыкі і прадставіць мне не пазней 15 жніўня гэтага года на зацверджанне.

19. Начальніку Школьнага ўпраўлення падрыхтаваць да 1 жніўня план экскурсіі лепшых выкладчыкаў геаграфіі па СССР і БССР у ліку 75 асоб, прадставіць мне развёрстку па раёнах і каштарыс гэтага мерапрыемства.

20. Заг. Будаддзела сумесна з кіраўніком Фінгрупы ў дэкадны тэрмін прадставіць мне на разгляд план школьнага будаўніцтва і фінансавання яго на другую пяцігодку, выходзячы з паказанняў ЦК і СНК аб забеспячэнні матэрыяльнай і вучэбнай базы ў адпаведнасці з новай структурай школ, ростам сярэдняй школы і вострай неабходнасцю пабудовы інтэрнатаў як пры новабудоўлях, так і іншых школах.

21. Абавязаць заг. Райана ў дадатак да раней дадзеных паказанняў у дэкадны тэрмін прадставіць РВК і Горсоветам план будаўніцтва, прыстасавання і аслабанення памяшканняў пад інтэрнаты, а таксама патрэбныя для гэтага сродкі, выходзячы з канкрэтнай патрэбнасці ў інтэрнатаў плошчы па раёнах. Скончыць арганізацыю інтэрнатаў не пазней 10/VIII гэтага года.

22. Абавязаць нач. Школьнага ўпраўлення ў 2-дэкадны тэрмін прадставіць мне на разгляд усе змены ў статут школы, выцякаючыя з пастановы ЦК ВКП(б)Б і СНК СССР аб структуры школы.

23. Абавязаць нач. Школьнага ўпраўлення і дырэктара НДІ ў 5-дзённы тэрмін прадставіць праект рэарганізацыі НДІ Комвыхавання ў НДІ Школьнай педагогікі ў адпаведнасці з рашэннем ЦК і СНК БССР.

Аб выкананні пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб структуры школы і аб выкладанні гісторыі і геаграфіі.

24. Важнейшай і рашаючай задачай у галіне работы школы НКА па НДІ школьнай педагогікі, навуковых работнікаў, настаўніцтва павінна быць належная ўпартая барацьба за своечасовую і поўную падрыхтаванасць школы да новага навучальнага года, за павышэнне ведаў вучняў, за авалоданне імі асноў навук, за выхаванне з іх сапраўды актыўных будаўнікоў соцыялістычнага грамадства.

Звярочваючы ўвагу ўсіх начальнікаў упраўлення, заг. адзелаў, кіраўнікоў груп апарата НКА, заг. Райана, дырэктароў і заг. школ на неабходнасць узмацнення работы па рэалізацыі важнейшай пастановы ЦК ВКП(б) і СНК СССР аб школе, памятаючы, што правільная і чоткая пастаноўка работы НКА, Райана, дырэктароў і заг. школ у перыяд рэалізацыі гэтых пастаноў ЦК і падрыхтоўка да новага навучальнага года набывае выключна палітычнае значэнне ў справе забеспячэння правільнай і чоткай пастаноўкі работы школы, парадку і дысцыпліны ў ёй.

Нам. наркома асветы *Абрамсон.*

# ЗАГАД № 1079
## па Народнаму камісарыяту асветы БССР
### Аб фактах дэзертырства настаўнікаў з Петрыкоўскага раёна

*Менск, 15 верасня*

1. Прапаную наступным настаўнікам, прызначаным і працаваўшым у Петрыкоўскім раёне, але дэзертыраваўшых з яго, безадкладна з'явіцца на месцы прызначэння:

1. Буцькоў В. П. сконч. Гомельскі п/т.
2. Ліжумовіч С. М. „ аднагад. п/к.
3. Кардаш А. З. „ Мазырскі п/т.
4. Сігалава „ ВПІ
5. Натарэвіч „ ВПІ
6. Шастакова М. „ Гомельскі п/т.
7. Мельнікава В. „ Мазырскі п/т.
8. Дуброва К. „ Мазырскі п/т.

2. Усім загадчыкам Райана безагаворачна адкамандыраваць у Петрыкоўскі раён памянёных настаўнікаў з свайго раёна і даслаць мне спісы, прычым папярэджваю, што невыкананне гэтага загада выкліча прыцягненне да судовай адказнасці, як за пераманьванне і ўкрывацельства дэзертыраў.

3. Загачыку Петрыкоўскага Райана давесці мне праз 5 дзён з дня апублікавання гэтага загада аб настаўніках, не падпарадкаваўшыхся майму загаду.

4. Начальніку Школьнага ўпраўлення т. Лешчынскаму прасачыць за выкананнем заг. Ана і настаўнікамі гэтага загада і праз 5 дзён прыцягнуць да судовай адказнасці заг. Ана, не выканаўшых майго загада, а настаўнікаў, не падпарадкаваўшыхся гэтаму, пазбавіць дыплома і права быць педагогамі з прыцягненнем іх да судовай адказнасці за дэзертырства і аб выніках далажыць мне.

5. Загад апублікаваць у друку.

Нар. камісар асветы БССР *Чарнушэвіч*

---

# ЗАГАД № 1096
## па Народнаму камісарыяту асветы БССР
### Аб сістэматычным абслугоўванні дзяцей школьнікаў спектаклямі

Менск, 19/IX 1934 года.

У мэтах сістэматычнага абслугоўвання дзяцей-школьнікаў спектаклямі загадваю:

1. Усім тэатрам у план сваёй работы ўвесці арганізацыю ранішнікаў для дзяцей-школьнікаў.

Кожнаму тэатру даваць не менш 2-х спектакляў у месяц.

2. Тав. Прагіну і т. Касперовічу да 25/IX даслаць тэатрам і Райана спісы п'ес, якія раяцца для пастановак на дзіцячых ранішніках.

Для педагагічнай праверкі новых пастановак ствараць камісіі на месцах з прадстаўнікоў: Райана, Райбюро ДКА, педагогаў.

3. Тэатрам вылучыць спецыяльнага работніка, які адказвае за правядзенне ўсёй работы па арганізацыі спектакляў для дзяцей.

4. Распісанне ранішніх спектакляў складаць у залежнасці ад распісання ў школах, узгадняючы з Райгарана.

5. На дзіцячыя ранішнікі ў кожным тэатры ўстанаўліваць спецыяльныя расцэнкі. Каштоўнасць білета на ранішнікі не павінна правышаць аднаго рубля.

Неабходныя сродкі на ўдзешаўленне спектакляў ізыскаць Райана.

Пры прадажы ранішнікаў для дзяцей тэатрам кіравацца льготамі, існуючымі для студэнцтва, згодна пастановы СНК.

6. Райгарана заключыць дагавор з тэатрам на пэўную колькасць спектакляў, забяспечыць арганізаванае наведванне дзецьмі спектакляў.

Усе спектаклі забяспечыць належнай колькасцю педагогаў, якія адказваюць за парадак, дысцыпліну ў час спектакля.

7. Перад кожным спектаклем праводзіць уступнае слова, у якім азнаёміць дзяцей з эпохай, аўтарам п'есы, пастановачным планам спектакля.

Тэзісы выступленняў зацвярджае Райгарана.

8. Білеты на школьныя ранішнікі распаўсюджваюцца ўпаўнаважаным тэатра па правядзенню дзіцячых ранішнікаў у парадку калектыўнай прадажы білетаў асобным школам, або мэтавых спектакляў па ўказанню Райгарана.

Нам. наркома асветы БССР *Дунец*.

# ЗАГАД № 1092
## па Народнаму камісарыяту асветы БССР
### Аб забеспячэнні настаўнікаў-завочнікаў падручнікамі сярэдняй школы

*Ад 10/IX—34 г. гор. Менск.*

Для забеспячэння настаўнікаў-завочнікаў, навучаючыхся ў завочных педтэхнікумах, падручнікамі сярэдняй школы, якія могуць быць скарыстаны пры праходжанні праграм завочнага педтэхнікума, загадваю:

Дырэктарам усіх няпоўных і поўных сярэдніх школ вылучыць з школьнага фонда падручнікаў, па ўказанню заг. Райана, падручнікі: па матэматыцы, батаніцы, заалогіі, эвалюцыйнаму вучэнню, хіміі, белмове, бел. літаратуры, русмове і літаратуры, эканомгеаграфіі і фізгеаграфіі ў колькасці, патрэбнай для абслугоўвання настаўнікаў данага с/с і раёна, з'яўляючыхся завочнікамі педтэхнікума. Падручнікі прадастаўляць для часовага карыстання пад асабістую адказнасць завочніка, не больш 2-х назваў на чалавека. Выдачу новых вытвараць толькі пасля звароту ўжо прапрацаваных.

Заг. Райана, пасля ўкамплектавання завочных педтэхнікумаў, высветліць колькасць завочнікаў педтэхнікума па кожнаму с/с, прасачыць за вылучэннем патрэбнай ім колькасці падручнікаў дырэктарамі няпоўнай і поўнай сярэдняй школы і забяспечыць праз прымацаванне завочнікаў да пэўных школ снабжэнне гэтымі падручнікамі.

Народны камісар асветы *Чарнушэвіч*

---

# ЗАГАД № 13
## па Народнаму камісарыяту асветы БССР ад 29 верасня 1934 г.
### Аб падрыхтоўцы хат-чытален да зімы

Становішча хат-чытален і РДСК выключна нездавальняючае. Не гледзячы на прыбліжэнне зімовага перыяду, па цэламу раду раёнаў рамонт хат-чытален і РДСК зусім не праводзіцца. Памяшканні палітасветных устаноў да гэтага часу выкарыстоўваюцца не па прамому прызначэнню: пад канцэлярыі сельсоветаў, малочных ферм, ссыпныя пункты (Пухавічы, Крупкі, Нароўля, Хойнікі, Асіповічкі р-ны).

Пастанова бюро ЦК КП(б)Б ад 20/V—34 г. і мой загад ад 4/VI—34 г. аб разгортванні масавай палітпрасветнай работы, прывядзенні ў парадак хат-чытален, ажыццяўляюцца нездавальняюча.

З мэтай узмацнення павышэння якасці падрыхтоўкі палітасветных устаноў да зімовай работы загадваю:

1. Пад асабістую адказнасць загадчыкаў Райгарана устанавіць сістэматычны апаратыўны кантроль за арганізацыяй, ходам і своечасовым сканчэннем рамонту хат-чытален і РДСК з разлікам, каб усю падрыхтоўчую і арганізацыйную работу на зімовы перыяд скончыць да 1 лістапада г. г.

2. Арганізаваць з I/X па I/XI—34 г. смотр гатоўнасці хат-чытален і РДСК да зімовай работы, для чаго адпусціць на правядзенне смотру і прэміраванне лепшых удзельнікаў 5 000 рублёў.

3. Зацвердзіць парадак правядзення і арганізацыі смотру і размеркаванне прэмій прадстаўлены аддзелам хат-чытален і РДСК.

4. Аддзелу хат-чытален і Райгарана забяспечыць удзел усіх палітасветных устаноў у смотры, прыцягнуўшы для гэтага шырокія слаі грамадскасці, арганізаваўшы сістэматычнае асвятленне смотру ў друку.

5. Абавязаць заг. аддзела хат-чытален і РДСК т. Голуба прадставіць мне не пазней I/XII—34 г. вынікі арганізацыі смотру і паказацелі палітасветных устаноў для прэміравання.

Народны камісар асветы БССР
*Чарнушэвіч*

Зацвярджаю.
Наркомасветы БССР
ЧАРНУШЭВІЧ.
29|IX—34 г.

# Усім загадчыкам Райгарана

## Аб правядзенні смотру на лепшую падрыхтоўку хат-чытален да зімовай работы

У мэтах павышэння тэмнаў і якасці падрыхтоўкі хат-чытален да зімовай работы ўстанаўліваюцца наступныя паказчыкі і парадак правядзення смотру на лепшую падрыхтоўку да зімы:

### I. Паказчыкі работы хаты-чытальні

Не пазней 20 кастрычніка г. г.

1. Скончыць рамонт памяшканняў, абсталявання і культінвентара.
2. Уцяпліць памяшканне: (перакананапаціць сцены, засыпаць заваленкі).
3. Падвезці да хат-чытален апал у патрэбнай колькасці на ўвесь зімовы перыяд.
4. Закупіць газу, лямпы, шкло да іх і інш.
5. Прывесці ў санітарны стан памяшканне: прамыць шкло ў рамах, падлогу сцены, столь, вокны, дзверы.
6. Завесці, дзе не заведзена, інвентарную кнігу па форме, зацверджанай НКА і УНГУ і занесці ў іх увесь культінвентар і абсталяванне.
7. Набыць неабходны для зімовай работы культінвентар і дапаможнікі.
8. Папоўніць новай літаратурай і прывесці ў парадак бібліятэку.

Не пазней 1 лістапада:

1. Правесці мабілізацыю грамадскіх сродкаў на закупку інвентара і дапаможнікаў.
2. Распрацаваць план работы агразоатэхнічнага і самаадукацыйнага і др. гурткоў (з удзелам настаўнікаў, аграномаў, ветэрынараў і г. д.). Забяспечыць іх кіраўнікамі і вучэбнымі прыладамі.
3. Распрацаваць аператыўны план (квартальны, месячны) работы хат-чытален з паказаннем найменавання работы, формы выканання яе, указанне аб прыцягненні асобных арганізацый і асоб да яго выканання і тэрмін выканання.

### II. Парадак арганізацыі і правядзення смотру

У мэтах забеспячэння шырокага ўдзелу палітпрасветных работнікаў і устаноў вёскі ў смотры на лепшую падрыхтоўку да зімовай работы, на месцах павінны быць праведзены наступныя мерапрыемствы:

1. Райгарана змяшчаюць у друку паведамленне аб правядзенні, паказацелях і ўмовах удзелу ў смотры хат-чытален на лепшую падрыхтоўку да зімовай работы.
2. У Райгарана арганізуюцца смотравыя камісіі ў складзе старшыні (заг. АНА) і двух членаў (прадстаўнікі ад мясцовай газеты і саюза Асветы) для адбору хат-чытален, найлепш арганізаваўшых падрыхтоўку да зімовай работы.
3. Уключыўшыся ў смотр, хаты-чытальні абавязаны не пазней 10/XI г. г. прадставіць у смотравыя камісіі акты аб падрыхтоўцы устаноў да зімовай работы, завераныя старшынямі с/с і мясцовымі партыйнымі арганізацыямі, асвятляючыя выкананне ўсіх паказацеляў смотру.
4. АНА перасылае правераныя акты найлепш арганізаваўшых работу хат-чытален у аддзел РДСК і хат-чытален НКА БССР не пазней 20/XI—34 г. У прадстаўленых матэрыялах павінен быць паказан дакладны паштовы адрас хаты-чытальні, прозвішча, імя і па бацьку загадчыка хаты-чытальні.

### III. Прэміяльны фонд і размер прэмій

4 прэміі па 300 рублёў (з іх па 100 рублёў для прэмірав. заг.)
3 „ „ 400 „ „ „ 150 „ „ „ „ „
2 „ „ 500 „ „ „ 200 „ „ „ „ „
1 „ „ 600 „ „ „ 300 „ „ „ „ „

Прысуджэнне прэмій будзе вытварана 10 снежня г. г.

Прысуджаныя прэміі НКА высылае непасрэдна ў адрасы прэміраваных хат-чытален.

Загадчык аддз. РДСК і хат-чытален НКА *Голуб.*

# Пастанова Народнага камісарыята асветы і Цэнтральнага праўлення саюза працаўнікоў асветы БССР

*ад 16 лютага 1934. г. гор. Менск.*

**Аб устанаўленні дыферэнцыраванай зарплаты для бібліятэчных работнікаў усіх бібліятэк, якія знаходзяцца ў ведзенні аддзелаў Народнай асветы і грамадскіх арганізацый, а таксама школьных, ВНУ, тэхнікумаў, рабфакаў, даследчых ін-таў і інш. бібліятэк**

На падставе пастановы Совета народных камісараў БССР ад 12/І 1934 г. №309 „Аб павелічэнні зарплаты бібліятэчным работнікам", Наркомасветы і ЦП Саюза працасветы пастанаўляюць:

1. Устанавіць з 1/І—34 г. па кваліфікацыі 6-разрадную сетку аплаты бібліятэчных работнікаў, па трох тарыфных паясах у наступных размерах:

| Катэгорыі работнікаў | Разрады | Стаўкі зарплаты па паясах | | |
|---|---|---|---|---|
| | | 1 пояс | 2 пояс | 3 пояс |
| Бібліятэчныя работнікі . . . . . | 1 | 80 | 75 | 70 |
| | 2 | 95 | 85 | 80 |
| | 3 | 120 | 110 | 100 |
| | 4 | 150 | 140 | 130 |
| | 5 | 175 | 165 | 155 |
| | 6 | 200 | 190 | 180 |

**Кваліфікацыйная разбіўка бібліятэчных работнікаў**

1-й разрад. Пачынаючыя бібліятэчныя работнікі, дапушчаныя да працы, не маючыя спецыяльнай бібліятэчнай падрыхтоўкі.

2-й разрад. Бібліятэчныя работнікі: а) маючыя адукацыю не ніжэй 7-гадавой школы, здаўшыя бібліятэчны тэхмінімум, або прайшоўшыя спецыяльныя курсы, а таксама бібліятэкары з адукацыяй за 7-гадовую школу, прапрацаваўшыя на бібліятэчнай рабоце не менш аднаго года, б) навучаючыяся очна або завочна ў бібліятэчным тэхнікуме ці аддзяленні і здаўшыя залікі за першы семестр, в) маючыя адукацыю ў аб'ёме вячэрняй соўпартшколы II ступені або дзевяцігодкі.

3-й разрад. а) Бібліятэчныя работнікі: а) маючыя адукацыю за дзевяцігодку і прайшоўшыя спецыяльныя бібліятэчныя курсы, б) маючыя адукацыю за сямігодку і не менш 2-гадовай практыкі бібліятэчнай работы.

4-й разрад. Бібліятэчныя работнікі: а) маючыя адукацыю ў аб'ёме бібліятэчнага тэхнікума, або навучаючыяся (скончыўшыя не менш аднаго курса) у вяч. бібліятэчным ВНУ, очным ці завочным, б) практычныя работнікі з незакончанай сярэдняй адукацыяй (не менш сямігодкі), маючыя 3 года бібліятэчнай практыкі, г) асобы, маючыя агульную вышэйшую асвету.

5-й разрад. а) бібліятэчныя работнікі з незакончанай выш. асветай (не менш 2-х курсаў) і практыкі не менш 2-х год, прайшоўшыя адпаведную кваліфікацыйную камісію, б) навучаючыяся очна ці завочна ў спец. ВНУ і пераведзеныя на 3-ці курс, в) маючыя выш. асвету не спецыяльную, але не менш аднаго года практыкі бібліятэчнай работы і прайшоўшыя адпаведную кваліфікацыйную камісію, г) практычныя работнікі з сярэдняй агульнай адукацыяй, маючыя стаж бібліятэчнай работы не менш 7-мі год і прайшоўшыя адпаведную кваліфікацыйную камісію, д) бібліятэчныя работнікі, маючыя сярэднюю спецыяльную адукацыю і практычны стаж бібліятэчнай работы не менш 4-х год.

6-й разрад. Бібліятэкары: а) маючыя вышэйшую спецыяльную адукацыю, б) маючыя вышэйшую не спецыяльную адукацыю са стажам бібліятэчнай работы не менш 2-х год і прайшоўшыя адпаведную кваліфікацыйную камісію.

2. Калі пры правядзенні дыферэнцыраванай аплаты працы бібліятэчных работнікаў, зарплата фактычна атрымоўваемая, будзе вышэй, існуючая зарплата зніжэнню не падлягае.

3. Загадчыкі бібліятэк тарыфіцыруюцца па разрадах і стаўках бібліятэкараў.

4. Адзіночныя бібліятэчныя работнікі, якія адначасова з'яўляюцца заг. бібліятэк, атрымоўваюць за загадванне 10% да асноўнай стаўкі.

Загадчыкі бібліятэк пры штатах 1—3 і звароце кніжак да 20 000 у год атрымоўваюць за заг. 15% да асноўнай стаўкі.

Загадчыкі бібліятэк пры штатах 4—7 уключна і звароце кніжак ад 20 000 да

5 000 атрымоўваюць за заг. 25% да сваёй асноўнай стаўкі.

Загадчыкі бібліятэк пры штатах 8—14 і пры звароце кніжак ад 45 000 да 75 000 атрымоўваюць за заг. 40% да асноўнай стаўкі.

Загадчыкі бібліятэк пры штатах звыш 15 і звароце кніжак звыш 75 000 у год атрымоўваюць за заг. 50% да асноўнай стаўкі.

5. Кіраўнікі аддзелаў бібліятэк атрымоўваюць за кіраўніцтваў залежнасці ад аб'ёма і характару работы ад 10 да 25% іх асноўнай стаўкі.

6. Бібліятэчныя работнікі Дзяржаўнай бібліятэкі і Бібліяграфічнага ін-та імя Леніна і інш., маючыя адпаведную навуковую кваліфікацыю і вядучыя навуковую работу, аплачваюцца згодна норм і ставак устаноўленых СНКБ.

7. Аднясенне асобных раёнаў па паясному дзяленню праводзіцца згодна пастановы СНКБ ад 4/III—32 г. для настаўнікаў пачатковай і сярэдняй школы.

Нар. камісар асветы БССР *Чарнушэвіч.*

Старшыня ЦП саюза Працасветы *Іванова.*

---

## Інструкцыя Народнага камісарыята асветы і ЦП саюза Працасветы

### Аб парадку ўстанаўлення перыядычных надбавак да асноўнай зарплаты бібліятэчных работнікаў

У ажыццяўленне пастановы Цэнтральнага выканаўчага камітэта і Совета народных камісараў БССР ад 4/II-34 г. „Аб устанаўленні перыядычных надбавак да асноўнай заработнай платы бібліятэчных работнікаў“ НКАсветы і ЦП саюза працасветы прапануюць пры правядзенні ў жыццё азначанай пастановы кіравацца наступным:

1. Правам на атрыманне перыядычных надбавак карыстаюцца: загадчыкі бібліятэк і бібліятэкары гарадскіх і вясковых, спецыяльных, школьных бібліятэк, бібліятэк пры вышэйшых навучальных установах, тэхнікумах, рабфаках, навукова-даследчых інстытутах, грамадскіх і іншых бібліятэк.

2. Для вылічэння размеру выдаткаў на перыядычныя надбаўкі работнікі, якія маюць права на перыядычную надбаўку (§ 1), падзяляюцца на 4 групы.

Да першай групы належаць тыя, якія маюць стаж 20 і больш гадоў, да другой тыя, якія маюць стаж ад 15—20 г., да трэцяй тыя, якія маюць стаж 10—15 г., да чацвертай—работнікі, маючыя стаж 5—10 г.

Кантрольным момантам для вылічэння пэўных гадоў работы з'яўляецца 1 студзеня кожнага года.

3. Пры вылічэнні стажу на перыядычныя надбаўкі залічваецца работа на пасадах: заг. бібліятэк, аддзелаў бібліятэк, бібліятэкараў усіх устаноў, загадчыкаў хатчытален, загадчыкаў раённых ДСК, загадчыкаў клубаў, інструктараў бібл. справы, інспектараў палітасветы і ўсякага роду іншая работа ў навучальных установах, якая давала права на атрыманне перыядычных надбавак. У стаж работы ўлічваецца работа ў дарэволюцыйны час

4. У стаж работы для атрымання надбавак залічваюцца наступныя перарывы ў рабоце:

а) служба ў Чырвонай арміі і флоце;

б) служба на выбарных пасадах у советскіх, грамадскіх і профсаюзных органах;

в) час знаходжання ў навучальных установах, калі работнік паступіў у навучальную ўстанову непасрэдна з работы, якая дае права на перыядычныя надбаўкі;

г) час беспрацоўя, калі беспрацоўны меў права на дапамогу ў парадку соцыяльнага страхавання.

5. Работа на пасадах і час перарыву паказаных у арт. 4 і 3 гэтай інструкцыі, якая дае права на атрыманне перыядычных надбавак, павінна быць дакументальна пацверджана.

6. Згодна пастановы ЦВК і СНК БССР ад 4/II-34 г., перыядычныя надбаўкі работнікам, якія маюць права на іх атрыманне, уводзяцца па колькасці прыбавак па гадах наступным парадкам:

а) у 1934 г. атрымліваюць па адной надбаўцы бібліятэкары, маючыя стаж работы 15 і вышэй год;

б) у 1935 г. атрымліваюць па адной надбаўцы работнікі са стажам ад 5 да 15 год і па дзве надбаўкі—работнікі са стажам ад 15 год і вышэй;

в) у 1936 г. па адной надбаўцы атрымліваюць работнікі са стажам ад 5 да 10 г., па дзве надбаўкі—работнікі са стажам ад 10 да 20 г. і тры надбаўкі—работнікі са стажам ад 20 і вышэй год;

г) у 1937 г. па дзве надбаўкі атрымліваюць работнікі са стажам ад 5 да

15 г. і па тры надбаўкі—работнікі са стажам ад 15 і вышэй год;

д) у 1938 г. атрымліваюць па дзве надбаўкі работнікі са стажам ад 5 да 15 г. і па тры надбаўкі работнікі са стажам ад 15 і вышэй год;

е) у 1939 г. атрымліваюць па дзве надбаўкі работнікі са стажам ад 5 да 15 г. і па тры надбаўкі—работнікі са стажам ад 15 да 20 год і чатыры надбаўкі—работнікі са стажам ад 20 і вышэй год.

Колькасць надбавак па гадах, згодна агульнага стажу, паказвае наступная табліца.

| СТАЖ | Колькасць надбавак па гадах | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1934 г. | 1935 г. | 1936 г. | 1937 г. | 1938 г. | 1939 г. |
| 5—10 г. . | — | 1 | 1 | 2 | 2 | 2 |
| 10—15 г. . | — | 1 | 2 | 2 | 2 | 2 |
| 15—20 г. . | 1 | 2 | 2 | 3 | 3 | 3 |
| 20 і выш. . | 1 | 2 | 3 | 3 | 3 | 4 |

Права на атрыманне перыядычнай надбаўкі маюць толькі тыя работнікі, якія праработалі не менш 5 год у савецкіх установах.

Перыядычныя надбаўкі ўстанаўліваюцца ў наступным размеры.

Загадчыкі, намеснікі, кіраўнікі аддзелаў бібліятэк і бібліятэкары ўсіх тыпаў бібліятэк, якія тарыфіцыруюцца па 6-му разраду, атрымліваюць 150 р. у год; асобы, якія тарыфіцыруюцца па 5-му разраду, атрымліваюць 100 р. у год; асобы, якія тарыфіцыруюцца па 4-му разраду—72 р. у год; асобы, якія тарыфіцыруюцца па 1, 2 і 3-му разрадах—па 60 р. у год.

Размер надбаўкі павышаецца ці паніжаецца ў залежнасці ад таго, па якому разраду к часу атрымання надбаўкі будзе ўстаноўлен разрад.

Калі работнік працуе ў некалькіх установах, то права на атрыманне надбаўкі за выслугу год ён мае толькі ў адной установе.

Перыядычныя надбаўкі выплачваюцца за кошт дзяржаўнага і мясцовага бюджэту, або арганізацыі, на сродкі якой утрымліваецца бібліятэка.

Надбаўкі выплачваюцца адначасова з выплатай пенсіі па 1—12 штомесячна.

На перыядычныя надбаўкі асобам, пералічаным у гэтай інструкцыі, налічваюцца ва ўстаноўленым парадку ўзносы на соцстрахаванне і ўтрыманне нізавой саюзнай арганізацыі.

Нам. Народнага камісара асветы *Абрамсон*.

За старшыню ЦП саюза Працасветы *Хейфец*.

Узгоднена з НКФ БССР *Еленеўскі*.

---

## Усім заг. радыёвяшчання, вузлоў і камітэтам садзейнічання пры РК ЛКСМБ

### Аб аслабаненні ад абанентнай платы дзяцей радыёаматараў

Згодна правіл і парадку карыстання радыёпрыёмнікамі, трансляцыйнымі радыёвузламі і трансляцыйнымі радыёкропкамі, радыёаматары-эксперыментатары (пункт Ж/III раздзела) аслабаняюцца ад абанентнай платы.

Прапануем у мэтах пашырэння дзіцячага эксперыментальнага радыёаматарства ўтварыць аслабаненне ад аплаты арганізаваным парадкам. А іменна: Райана складае спіс радыёаматараў, якія працуюць у радыёлабараторыях тэхстанцый і радыёгуртках школ, камітэты садзейнічання пры РК ЛКСМБ правяраюць і зацвярджаюць спісы і дасылаюць ва Ўсебеларускі радыёкамітэт пры СНК БССР на канчатковае зацвярджэнне.

Нам. старшыні ўсебеларускага радыёкамітэта *Гольмшток*.

Старшыня камітэта садзейнічання радыёфікацыі і радыёвяшчання пры ЦК ЛКСМБ *Аўгустайціс*.

Нам. упаўнаважанага наркомсувязі пры ўрадзе БССР *Рудзін*.